Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 23 Вільня, Серада, 14-га ліпня 1926 г. Год I.

## Угода ці барацьба?

У буржуазных дзяржавах, дзе — побач з „пануючай“ або „дзяржаўнай“ нацыяй жывуць народы другой нацыянальнасьці, да ўціску сацыяльнага заўсёды далучаецца і ўціск нацыянальны,—асабліва ў тых выпадках, калі паняволены народ складаецца ў сваей пераважнай большасьці з элемэнтаў працоўных, творачых усе цэннасьці, на якія ўмее налажыць сваю цяжкую руку буржуазія.

Дзе істнуе нацыянальны ўціск, там *мусіць* істнаваць і барацьба за вызваленьне ўцісканага народу,—і гэтая барацьба, як паказаў хаця-бы прыклад Польшчы, у канцы канцоў вядзе да стварэньня ўласнае дзяржавы гэтага народу. Але—адначасна з барацьбой—у ўцісканых грамадзянствах мы бачылі й бачым спробы дайсьці да нейкага паразуменьня--ўгоды—з уціскаючым народам, прынамся—ў справах штодзеннага, буднага жыцьця.

Ведама, *запраўдная* згода ці ўгода між народамі магчыма толькі пад лёзунгам: „роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі“, якога так надужывала й надужывае польская буржуазія. Такая ўгода, якая прызнала-бы права недзяржаўнага народу *на самавызначэньне*, магчыма толькі пры істнаваньні ў дзяржаве *ўлады сялян і работнікаў*, якія — ведама—не зацікаўлены ў уцісканьні такіх-жа сялян і работнікаў другое нацыянальнасьці. Але няволя, асабліва калі яна трывае даўжэйшы час, родзіць *другі від угоды*, які ня мае нічога супольнага з справядлівым разьмежаваньнем вольных народаў. Гэта—ўгода спадлеўшага ў няволі *раба з сваім валадаром, лякая—з панам*, угода, на якую ніколі ня йдзе маса, а *толькі адзінкі*. На такую ўгоду ў царскай Расеі йшлі польскія магнаты, катоных ня рупіла карысьць польскага народу, а толькі іх уласная,—тытулы, ордэры, ці белыя камэргэрскія порткі—адзнака становішча „ганаровых“ лякаёў цара...

Вось-жа на ўгоду з *польскім народам*, як „роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі“, беларусы ўжо ня раз пробавалі йсьці, але — кожын раз аказваліся *ашуканымі польскай буржуазіяй*, якая ад імя польскага народу кіруе польскай дзяржавай. Так было з „Найвышэйшай Радай“ у Менску, якая падпісывала нейкія ўмовы з прадстаўнікамі п. Пілсудскага, як начальніка дзяржавы,—умовы, каторыя Польшчай зусім ня былі споўнены. Так было двойчы і з нашымі паслямі ў польскім Сойме: раз яны аддалі свае галасы на кандыдата польскае дэмакратыі ў прэзыдэнты, якім аказаўся... п. Войцеховскі; другі раз—падтрымалі „дэмакратычны“ ўрад генарала Сікорскага, які з соймавае трыбуны суліў нам споўненьне ўсіх нашых дамаганьняў, а пасьля толькі нягодна пасьмяяўся з лёгкавернасьці нашых дэпутатаў! І ясная рэч, што *пакуль у Польшчы трываціме ўлада буржуазіі*, датуль усе спробы з боку беларускага *працоўнага* народу дайсьці ўгоды на падставе роўнасьці, волі і брацкага разьмежаваньня *будуць бясплоднымі*: буржуазія, якая пад сваім ботам трымае польскія працоўныя масы, ні ў якім выпадку ня можа згадзіцца на роўнасьць з ёй і на волю беларускіх *сялян і работнікаў*!

Затое-ж ужо сама польская буржуазія і яе „дэмакратычныя“ прадстаўнікі й павадыры шукаюць ўгоды з беларусамі, але ўгоды... таго *другога сорту*! Яны кідаюць з свайго стала костку розным прадажным фігурам—палітычным спэкулянтам, якія „ад імя беларускага народу“ маюць адвагу заяўляць, быццам народ гэты „ўсім чым даволен“ пад Польшчай; яны не шкадуюць грошы на ўтрыманьне нібы-то беларускіх культурных установ (кшталтам ведамае „Прасьветы“ Павлюкевіча), у якіх—па-за вывескай—няма ніякае актыўнае працы, і іменна *за бяздзеяльнасьць* сябрам такіх установ плоцяцца грошы і даюцца розныя асабістыя „канцэсіі“. І гэта—лішні доказ таго, што пануючая ў Польшчы буржуазія нічога беларускаму народу *даваць ня зьбіраецца і ня дасьць*! Наадварот, чым больш будзе аб'яўляцца „ўгадоўцаў“ такога тыпу, чым больш наймітаў сярод беларусаў будзе знахадзіць урад п. п. Пілсудскага й Бартля, або іншых,—тым менш надзеі на тое, каб нейкіх уступак, нейкага палягчэньня прыждаў беларускі селянін і работнік.

Практыка паказала, што з польскай буржуазіяй ня можа ў нас быць угоды на падставе роўнасьці й волі. На ўсякія-ж іншыя віды ўгоды могуць ісьці толькі *здраднікі* свайго народу. — Дык і шлях наш пад уладай польскае буржуазіі—ясны: гэта — далейшая барацьба—ў Сойме і па-за Соймам—поплеч з працоўнымі масамі ўсіх нацыянальнасьцяў Польшчы, якія бачаць лепшую будучыну — „вашу і нашу“—*толькі пад уладай сялян і работнікаў*.

## Сяляне і работнікі!

**Памятайце аб сваей радні і таварышах, што сядзяць за кратамі вастрогаў!**

**Дамагайцеся амністыі. Зьбірайце подпісы і перасылайце іх у „міжпартыйны камітэт дзеля барацьбы за амністыю для палітычных вязьняў у Польшчы“.**

**Ведайце, што толькі тады, калі шырокія масы працуючых, калі кожны з нас падасьць свой голас,—урад будзе змушаны даць амністыю.**

**Адрасуйце пісьмы на соймавы клюб Бел. Сял.-Работніцкай Грамады.**

## Французскія вучоныя і пісьменьнікі за амністыю у Польшчы.

**Група французскіх вучоных і пісьменьнікаў узноў зллажыла пратэст проці распраў дэфэнзывы з правадырамі работніцкага руху і нацыянальных меншасьцяў.**

**У сваей адозьве яны сцьвярджаюць, што нат справаздача істнаваўшай у прошлым годзе соймавай камісіі да спраў палітычных вязьняў — пярэчыць тым выясьненьням, якія даваў у свой час урад заграніцы.**

**Французскія вучоныя і пісьменьнікі дамагаюцца ад новага ўраду амністыі для ўсіх палітычных вязьняў, скасаваньня наглых судоў і кары сьмерці.**

## Народ гоніць пэпэсаў.

4. VII. Польская Сацыялістычная Партыя склікала мітынг у Слоніме. Грамады людзей зьбіраліся ад раньня на Рыбацкай вуліцы каля „Зьвёнзку Рольнічэго“. Аратар пачаў прамову папольску. Беларускія слухачы прасілі гаварыць пабеларуску. Аратар гаварыць пабеларуску адмовіўся. Пыталіся ў аратара: з чые ласкі нагналі на „Крэсы“ асаднікаў, пазачынялі беларускія школы, забаранілі рабіць навет вясковыя сходы, увялі „даразныя“ суды і г. д.? Аратар адказаў: nie wiem (ня ведаю).

Пачаліся крыкі супроць П. П. С. і іх аратара, які нічога ня ведае: „Далоў здраднікаў і скурнікаў! Далоў Іскарыётаў!“...

Са страху аратар замкнуўся ў хаце і ўжо праз вакно крыкнуў: „wiec rozwiązuję“ (сход распускаю), ды прасіў усіх зьявіцца на 18. VII. 26. Тады будзець некалькі паслоў, якія прадоўжаць гэты мітынг...

Абураныя сяляне пачалі пагражаць аратару за ману, але да расправы не дапусьцілі больш сьвядомыя людзі з гушчы. Пад іх загадам каля 500 асоб станулі ў рады па чатырох і па камандзе ўсе рушылі наперад нага ў нагу, зрабіўшы гэтак саматугам дэманстрацыю па вуліцах Слоніма. Запялі рэвалюцыйныя песьні. Адзінокія паліцыянты ўцякалі ад маніфэстантаў. Места прыняло сьвяточны настрой.

З Рыбацкай вуліцы правадыры павялі маніфэстантаў на Замосьце, а там на Віленскую вуліцу і ў чыстае поле. Але зараз-жа заўважылі, што за імі нясецца конная паліцэйская пагоня і ўся пешая паліцыя. Спалоханыя дэманстранты пачалі ўцякаць—хто куды. Адны паўцякалі, аднак—арыштоўваць яшчэ было каго. Пешая і конная паліцыя акружыла застаўшыхся і пагнала каля 60 чалавек у падвалы. У каго былі сякія-такія дакумэнты, той быў запісаны і звольнены, але пад „zobowiązaniem“ (забавязаньнем) прыйсьці да іх заўтра. З нядзелі-ж 4. VII. пачаліся „баданьні“—„звычайнымі“ ўжо ў нас спосабамі.

У сераду 7. VII. сланімчане бачылі, як 19 скаваных вялі з паліцэйскага арышту ў слонімскі вастрог. Скованыя дэманстрацыйна патрасалі кайданамі, што былі на руках і пялі рэвалюцыйныя песьні. Настрой іх быў бодры.

Затрыманыя прыпадкова дзяўчаты з Чамяроў: Вера Іскрык, Волька Дземяшэвіч і Ганна Каралёва—звольнены дамоў праз тры дні, але іх забавязалі хадзіць што-тыдня „мэльдавацца“ да паліцэйскага пастарунку ў Касьцянёх за 4 вярсты.

І цяпер яшчэ шукаюць, арыштоўваюць і „бадаюць“ усё новых і новых асоб, якія хоць зблізка дзівіліся на мітынг ППС. Пара гарачая—працы ў полі і дома—хоць умры, а вось мацнейшыя сілы пасаджаны за краты.

Дзе ж партыя ППС?!? Чаму маўчыць і не бароніць?!?

Сяляне і работнікі Слоніма! Арганізуйце самі сходы і пратэстуйце проці арыштаў! Вынасеце рэзалюцыі. Ведайце, што толькі гэтакім чынам паможаце сваім братом у бядзе.

Слонімская арганізацыя Грамады павінна ўзяць на сябе ініцыятыву ў гэтай справе.

**Чупрыновіч.**

**Ад Рэдакцыі.** З свайго боку соймавае прадстаўніцтва „Грамады“ інтэрпэлявала да міністра Унутр. Спраў, дамагаючыся спыненьня біцьця і звальненьня арыштованых.

## Зьмены ў польскай Канстытуцыі.

Канстытуцыйная камісія Сойму—пасьля дакладу п. Хацінскага і агульнай дыскусіі—пачала ўжо разгляд праектаў зьмены Канстытуцыі па артыкулам і галасаваньне іх.

Вось найбольш цікавыя для нас пастановы камісіі.

З арт. 11, які кажа аб падставах выбарнага права, **выкінута абавязковасьць прапорцыянальнага галасаваньня**. Прапорцыянальнае галасаваньне, як дамагаліся ў сваім праекце эндэкі, пакінута толькі, як магчымае. Гэта значыць, што Сойм асобным законам, ці можа навет урад—„распараджэньнем“—можа ўвясьці прапорцыянальныя выбары ў тых акругох, дзе будзе лічыць для сябе карысным. Будзе ў Польскай Рэспубліцы, як сказаў адзін з паслоў меншасьцяў,—„адзін выбарны закон па гэты бок Бугу, другі—за Бугам“...

Гэтая папраўка б'е па малых групах, ды, ведама-ж, „кіраваная,“ як дышла“, будзе біць па меншасьцях. Папраўка прайшла адным голасам правай большасьці.

Да арт. 12 і 13 век, які даваціме права выбіраць паслоў і сэнатараў, устаноўлены на 24 гады (было 21), а права быць выбіраным—як у Сойм, таксама і ў Сэнат,—30 гадоў (было — у Сойм 25 гадоў, у Сэнат—30). Прынята 18 галасамі правіцы і Пяста проці 12.

Гэтая рэакцыйная папраўка значна абмяжоўвае лічбу выбаршчыкаў у краі, датаго — коштам маладых, заўсёды больш адважных ды прагрэсыўных элемэнтаў народу.

Арт. 21 выклікаў найбольш спораў і спрэчкаў: у ім гаворыцца **аб нятыкальнасьці дэпутатаў Сойму**. Ведама, што фактычна і цяпер ніякай нятыкальнасьці для паслоў нацыянальных меншасьцяў і ўсіх запраўды левых польскіх груп няма. Дык папраўка камісіі мае толькі легалізаваць гэтае беззаконьне ў Канстытуцыі. Пасол, паводле папраўкі, пазбаўляецца нятыкальнасьці за сваю працу па-за Соймам: яго можна цягнуць у суд за ўсё, што толькі не падабаецца паліцыі ці пракурору. А суд над дэпутатам адкладаецца ўжо не да канца паўнамоцтваў Сойму, але толькі да канца соймавай сэсіі... Арыштаваць пасла да папраў-

Нямецкая прэса вельмі акуратна прыводзіць гэтыя заявы афіцыяльнага органу польскай арміі, як ведама, фактычна падыктатарску кіруючай (—у асобе марш. Пілсудскага!) польскай палітыкай.

З другога боку нямецкія сацыялісты выкрылі, быццам Нямеччына рыхтуецца таксама да вайны з Польшчай. Ваенная ўмова з Літвой мае гарантаваць нямецкаму штабу літоўскую тэрыторыю для хаваньня складаў аружжа. За гэта быццам Нямеччына мае памагчы Літве забраць Вільню...

Дык—хто-ж першы адважыцца распачаць новае праліцьце крыві?!

### Запярэчаньне чутак аб падарожы Чычэрына.

Радавы ўрад пярэчыць вестакам замежнай прэсы аб падарожы Чычэрына ў Парыж, Рым і Варшаву.

### Новы ўпадак франка і ліры.

Францускі франк ды італьянская ліра ізноў значна спалі.

### Новы пераварот у Партугаліі.

Толькі што, здавалася, умацавалася ўлада апошняй партугальскай „рэвалюцыі“, як выбухнула новая „рэвалюцыя“, няменш удалая. Былыя міністры, якіх скінула папярэдняя „рэвалюцыя“ ген. Коста, цяпер злажылі новы „рэвалюцыйны“ ўрад. Армія перайшла на бок новага ўраду (ці старога?!).

Чытачы нашай газэты ведаюць ужо, у чым сакрэт гэтых партугальскіх „рэвалюцыяў“: галоўную роль тут іграюць англійскія фунты...

### Расправа з загаворшчыкамі проці Кемаль-пашы.

У Турцыі ідзе судовая расправа у справе змовы проці Кемаль-пашы. Спадзяюцца дзесяткаў, калі ня сотняў, казьняў, бо Кемаль у сваей адозьве заявіў, што жорстка расправіцца з замахоўцамі на яго жыцьцё.

Газэты пішуць, што сьледзтва выкрыла грашовую дапамогу загаворшчыкам — з Англіі і Італіі... Бо так заўсёды й бывала: шляхотныя англійскія Чэмбэрлены аднэй рукой пішуць вострыя пратэсты проці падтрыманьня звонку сваіх галадаючых вуглякопаў, а другой рукой пасылаць самі грошы ў чужую дзяржаву, каб іх найміты забівалі там няўгодных ім дзяржаўнікаў...

### Правакацыйнае цкаваньне насяленьня ў Індыі.

З англійскай Індыі ізноў ідуць весткі аб страшэнных узаемных пагромах індусаў і мусульман. Ведама-ж, англійская ўлада толькі „рэгулюе“ гэтыя пагромы, памагаючы то тэй, то другой старане,—каб утрымаць між імі „раўнавагу“. У мяйсцовасьці, дзе справакаваны пагромы, зараз-жа высылаюцца новыя атрады паліцыі ды войска... Вось—у гэтым якраз і мэта англійскіх жываедаў у Індыі.



вашимъ приходомъ они уже были здѣсь уварвавшися... Искали васъ подъ кроватями, въ шкафу... всюду.

— Антонъ Осиповичъ! Одолжи, голубчикъ! я-же въ свое время былъ щедрымъ, я съ тобой, какъ съ другомъ, дѣлился...

— Что вы, Арсеній Васильевичъ! нѣтъ у меня денегъ! Я давеча заплатилъ банковый долгъ за свой домъ...

— Что-же дѣлать, Антонъ Осиповичъ! Совѣтуй! ты—единственный мой другъ!

— Можетъ у Мадлены Александровны въ чулочкѣ еще кое-что осталось?

— Нѣтъ, Антонъ Осиповичъ! Она все на свои платьица израсходовала... Нужно же одѣться, понимаете... Жена предсѣдателя—noblesse oblige...

— Нѣтъ, я не курю, спасибо...

— Нѣтъ, вы не поняли... Есть такое французское слово... Ну, такъ что-жъ дѣлать, Антонъ Осиповичъ?

— Развѣ мебель продать, Арсеній Васильевичъ?

— Что вы въ самомъ дѣлѣ, Антонъ Осиповичъ! Обстановку продать?! Семь-же тысячъ за нее уплочено, понимаете. Не всегда такой случай случается...

— А больше денегъ уже не даютъ?

— Наотрѣзъ отказали.

— Въ Варшаву съѣздите, Арсеній Васильевичъ!

— Сомнительно, поможетъ-ли?

— Попробуйте, Арсеній Васильевичъ!

— Да, утопающій за соломинку хватается... Ѣду!.. Я теперь черезъ черный ходъ, понимаете, чтобъ не встрѣчаться съ этими мерзавцами!.. А вы, Антонъ Осиповичъ, если будутъ случаться, скажите, что 22-го... Если въ Варшавѣ дѣло не выгоритъ, будемъ ждать возварщенія изъ отпуска нашего протектора... Досвиданія, Антонъ Осиповичъ!

— Счастливаго пути, Арсеній Васильевичъ!.. Но вы осторожно черезъ черный ходъ... можетъ быть они и тамъ васъ поджидаютъ...

**Пуга.**

## Банкруцтва буржуазнай гаспадаркі ў Францыі.

Францускі франк ізноў стрымгалоў паляцеў уніз... І гэта—ня гледзячы на тое, што на чале міністэрства фінансаў—з правамі амаль ня дыктатара—стануў „сам“ Кайо, ад якога спадзяваліся амаль ня цудаў! Францыя — багаты, працавіты край, але забівае яго фінансавая гаспадарка яго буржуазіі, якая зусім ня хоча ратаваць край коштам сваіх ахвяр, а адначасна — бяссільна ўжо змусіць да ахвяр выключна працуючыя клясы. Пракляцьцем краю зьяўляецца перадусім — **мілітарызм**, які даў Францыі—ў спадчыне па „вялікай вайне“—бюджэт у 37 мільярдаў франкаў, з якіх адных толькі працэнтаў за дзяржаўныя даўгі — і то толькі—ўнутраныя—скарб плаціць аж 22 мільярды... Можна было-б, зразумела, папросту зьменшыць напалову ці натраціну суму гэтых працэнтаў, хутчэй сплачываючы гэныя даўгі; але якраз гэтага і ня сьмее зрабіць ніводзін з урадаў,—бо амаль ня ўсё насяленьне, прынамся ўсё **заможнае насяленьне** (буржуазія) Францыі, зьяўляецца ўласьнікамі гэтых пазыковых аблігацыяў (паперак) дзяржаўнага скарбу, якія даюць такія добрыя працэнты...

Буржуазія ня хоча сваім коштам ратаваць сваю дзяржаўную гаспадарку; вось — бясспрэчны факт, якім яна сама падпісывае сабе і дзяржаве прысуд сьмерці... Францускі парлямант зьядае сам сябе, грызучыся партыя з партыяй. Кожны з паслоў думае толькі аб тым, каб забясьпечыць сабе ізноў выбар... Ясна, што ўжо і новыя выбары ня зробяць нічога,—бо дадуць тых-жа людзей, няздольных да ахвяр. Ясна, што і праекту сацыялістаў—аб частковай канфіскацыі капіталаў—не правядзе ніякі буржуазны парлямант у Францыі: на гэта трэба пайсьці шляхам—**сацыяльнай рэвалюцыі**.

І вось, у такіх абставінах Брыян пробуе шляху „фінансавай дыктатуры“ Кайо... Кайо рашыў пайсьці да канца, узяўшы ў габінэт навет такога-ж, як ён, рашучага і баявога генарала Гійома, „беспартыйнага“ фахоўца, які, калі яму прыкажуць, будзе расстрэліваць народ на вуліцах, як гэта рабілі—ў падобных выпадках—„слаўныя“ слугі буржуазіі—генаралы Кавэньяк і Гальліфэ.

Што ў Францыі мусіць пачацца ўжо нешта „гэраічнае“, чуюць усе... Відаць гэта і па ажывіўшайся акцыі... крайніх рэакцыянераў-манархістаў, фашыстаў і г. д... Перамогшая ў вайне Францыя гатова разваліцца на нашых вачох—**ад цяжару гэтай перамогі**,—ад тэй сьмяротнай раны, якую яна атрымала на вайне...

І вось—дзіўная рэч: вочы Францыі зьвяртаюцца ўсё больш рашуча ў бок — **Нямеччыны**, якая, ня гледзячы на паражэньне, перамагае Францыю на кожным кроку... Францыя кліча Кайо, рашучага староньніка поўнага паразуменьня, амаль не саюзу, з Нямеччынай... Кайо голасна заяўляе, што Францыя павінна павучыцца ў Нямеччыны, як вясьці гаспадарку. А з другога боку, як паведамляе Усходняе Агенцтва, да Брыяна зьвярнуўся сам нямецкі пасол у Парыжу п. Гэш і запрапанаваў ад імя Нямеччыны—яе фінансавую помач для стабілізацыі францускага франка... Запрапанаваў, апрача таго, рад эканамічных уступак... За гэта ён дамагаўся толькі зьмяншэньня францускіх акупацыйных гарнізонаў у Нямеччыне.

Пабітая і разброеная Нямеччына мае ратаваць перамогшую і азброеную да зубоў Францыю.—Ці-ж ня цікаўна, не забойча для мілітарызму наагул?!

Трэба дадаць, што Францыя цяпер стараецца аб вялізарную пазыку ў Амэрыцы—штосьці ў суме 500 міліёнаў даляраў. Але Амэрыка ня верыць у трываласьць і сілу мілітарнай Францыі. Наадварот: Нямеччына мае бязьмежны крэдыт у Амэрыцы... Дык ясна, што—не свае, але амэрыканскія міліёны прапануе яна Францыі! Але й гэтая роля Нямеччыны—вельмі характэрна ў новай Эўропе, якая толькі-што была „Вэрсальскай“... Амэрыка—ясна—ня дасьць пазыкі Францыі без парукі Нямеччыны. Інак кажучы, толькі **поўнае паразуменьне Францыі з Нямеччынай** — вось аснова эўрапэйскай палітыкі Амэрыкі і **падстава для крэдыту для Францыі**. А ведама, што саюз ці паразуменьне моцнага эканамічна краю з нямоцным — гэта-ж эканамічнае панаваньне перашага над другім. Да гэтага поўнага вызваленьня і—панаваньня Нямеччыны ў Эўропе, дый ня толькі над Францыяй, і ідзе...



## Аддай царом усё!

Аддай царом усё—усё, што ёсьць цароў:
Махлярствы, мукі, зьдзек, разьню і грабяжы,
Астрог, галодну сьмерць... ўсё зло іх пакажы —
Ўсе рэчкі горкіх сьлёз, разьліту бедных кроў...

Аддай ім лес крыжоў і з шыбеніц гальлё,
Ды енк, біцьцё і стогн замучаных братоў, —
Аддай ім фальш, абман махлярскіх праў, судоў —
Аддай! Але вазьмі ўсё чыста, што тваё!

Вазьмі палацы, скарб—чым вельмі даражаць,
Вазьмі багацьце іх, чым троны зіхацяць, —
Дый сам ты лепш тагды ўсім жыцьцём кіруй;

Вазьмі ад іх палі, ўсе воды дый лясы,
Вазьмі ўсю сілу іх, ўсе зоры, небясы,
Бо **твой ёсьць гэты сьвет, ты сам над ім пануй!**—

**Гальяш Леўчык.**

Вольны пераклад з польскага—з Антона Лянге. (Напісана перад 1905 г.).

## ХРОНІКА.

**Прызнаваньне „обыватэльства“.** Мін. унутраных спраў разаслаў ваяводам распараджэньне, каб ад 17-га ліпня 1926 г. пачаць выдаваць масова дакуманты аб абыватэльстве асобам, маючым на гэта права — без усялякіх кручкоў. Распараджэньне датычыць толькі мястовага насяленьня.

**Аб адрэсаваньні пісем пабеларуску.** З увагі на тое, што да нас ўсё яшчэ даволі часта прысылаюцца запытаньні ў справе адрэсаваньня пісем у беларускай мове,—падаем аб гэтым ніжэйшыя інфармацыі.

Паводле распараджэньня аб мове ў паштовых, тэлеграфных і тэлефонных зносінах у ўнутраным абароце на абшарах ваяводзтваў: Палескага, Віленскага, Навагрудзкага і паветаў Гарадзенскага і Ваўкавыскага, Беластоцкага ваяводзтва, адрэсы на звычайных пісьмах можна пісаць пабеларуску кірыліцай, папольску-ж павінна быць пісана толькі пошта.

Прыклады:

1) *Грам. Язэп Навінчык*
*вёска Перавоз*
*Poczta Budsław, z. Wileńska.*

2) *Грам. Антон Гаўрыльчык*
*Нямецкая вул. 21, кв. 8.*
*m. Wilno*

Гэтак сама можна пісаць адрэсы, пішучы з другіх абшараў Польшчы ў памянутыя беларускія землі.

Тэлеграмы можна пісаць пабеларуску толькі лацінікай.

У тэлефонных гутарках можна карыстацца таксама беларускай мовай.

Кожны беларус павінен карыстацца з гэтага распараджэньня і паслугоўвацца роднай мовай на пісьмах. Трэба браць усё магчымае, паказаць, што мы пісаць пабеларуску хочам і не прапускаем ніводнае магчымасьці, каб скарыстаць хоць з прымітыўных сваіх правоў.

**З выдавецкае нівы.** Выйшла ў сьвет новая кніжка ў беларускай мове: „Сьвяшчэнная гісторыя старога завету“. Падручнік для пачатковых беларускіх школаў і малодшых клясаў беларускіх гімназіяў, — з 11 рысункамі ў тэксьце і 2 геаграф. картамі. Уложаны вучыцелем Закону Божага ў Віленскай Беларускай Гімназіі, кандыдатам багаслоўя Сяргеем Паўловічам.

**Афіцыяльны курс грошы на 13-га ліпня.** Даляр — 9 зл. 15 гр. Залаты рубель — 4 зл. 71 грошы.

13. VII. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,30 Чырвонец 45 зл.

## Карэспандэнцыі.

### Нашыя ворагі.

(З Дзісеншчыны).

Што нашая „Бел. Сял. - Раб. Грамада“, якая расьце з кожным днём, стаіць шмат каму бяльмом у воку, дык гэта не сакрэт. І стараюцца гэтыя нашыя „przyjaciele“ ўсялякімі спосабамі перашкодзіць магутнаму росту Грамады.

Гэтак жыхару в. Шалушына, Празар. гміны, Ф. давялося пачытаць праграму Грамады. Праграма, вядома, па сэрцу кожнаму селяніну. Ажна даведаўся аб гэтым жыхар тэй-жа вёскі Юльян Самуйла, які зараз прыляцеў да Ф. і пачаў пагражаць, што за гэтую праграму і Ф. і яго сям'ю заўтра ж пасадзяць у вастрог, а тых, хто выдаў гэтыя праграмы,—ну, дык напэўна расстраляюць.

Селянін Ф. троху і спалохаўся (вядома, яшчэ цемры досыць ёсьць на вёсцы), але неяк яго, па загаду Самуйлы, не арыштовываюць і ня вешаюць.

Гожа дадаць, што „пан“ Самуйла гандлюе ражанцамі, шкаплерамі і „вельмі паважанай“ газэцінай „Głos Wileński“. На гэтыя шкаплеры „пану“ Самуйлу пазычае часамі ксёндз і грошы і „міласьціва“ дапускае нашага гандляра „божым таварам“ да пацалаваньня дзьвюх рук. Ну, а як сяляне пойдуць за Грамадой і пачнуць лепш купляць розуму, а не ражанцы, дык „пану“ С. гэтае будзе не на карысьць. Дык і „стараецца“ наш панок угаварыць шалушынцам, што яны, як каталі-

